№ 4 (33) Чэцьверг 10-га лютага, 1927 г. м. Вільня Год II

# Бе[illegible]рускае Слова

Wilno
Uniwersytecka 9
„Przegląd Wileński"

Выходзіць раз у тыдзень Цана нумару 20 грош.

**Нацыянальнае адраджэньне.—Тэр[illegible]я і культурна-нацыянальная аутаномія.—Зямля сялянам на падставе уласнасьці.—Шырокі дэмократызм.—Барацьба з комунізмам.—Нацыянальная царква.—Краевая згода.—Далучэньне Усходняй Беларусі да Заходняй.**

Падпісная цана на 1 месяц 1 зл.
„ „ „ 3 „ 2 зл.
Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno ul. Fabryczna 39.
Рэдакцыя адчынена ад 12—2 гадз. штодня апрача сьвятаў.

Цана абвестак: перад тэкстам—20 гр.
„ сярод тэксту —25 гр.
„ на апош. стар.—10 гр.
за радок нонпарэля.

Сьв. П.

**АНТОН МІКАЛАЕВІЧ**

**ПІНЧУК-ПІНКЕВІЧ**

**старшыня Несьвіскага Сэкрэтарыяту Б. Н. Рады**

памёр 29 студня у Несьвіжы,
аб чым з жалем паведамляе сваіх сябраў і прыхільнікаў

**Беларуская Нацыянальная Рада.**

## Зьезд расейцау у Львове.

2 лютага г. г. адбыўся ў Львове зьезд склікаьы „Расейскім Народным Аб'еднаньнем", на чале каторага стаіць пасол Н. Серэбранікаў.

Паводле газэты „За Свабоду" на зьезд прыбыла 350 чалавек, з якіх две трэціх складалі галічанскія расейцы, а адну трэцюю расейцы з ўсходніх крэсаў Польшчы. Складалі зьезд пераважна прадстаўнікі інтэлігэнцыі, расейскіх студэнтаў, буйных абшарнікаў з усходніх крэсаў Польшчы і прадстаўнікі галіцка-расейскага сьвянства. Зьезд гэты выявіў свае две характэрныя рысы: 1) што расейцы нічаму не навучыліся і ня бачаць, што дае сучаснасьць і 2) вялікарасейскую пыху і шавінізм у адносінах да народаў украінскага і беларускага. Гэтыя народы аніводным з зьездаўскіх прамоўцаў нават *за народ не прызнаваліся.*

Вось як гаворыць другі пункт агульна-палітычнай рэзалюцыі: Выходзячы з непарушнага прынцыпа нацыянальнага і культурнага адзінства ўсіх *расейскіх плямён*, Р.Н. Аб.—будзе дабівацца фактычнага правядзеньня ў жыцьцё поўнага раўнапраўя, як для расейскага насяленьня ў цэлым, так і для кожнага расейскага чалавека ў паасобку, а такжа адпаведнага задаваленьня *культурна-нацыянальных* патрэбаў *расейскага* насяленьня. А п. Кіслоўскі ў сваёй прамове паставіў зусім выразна пункт над і, зазначыўшы пры воплесках усяго зьезду(!) што: „падзел *расейскага* насяленьня, жывучага ўва ўсходніх ваяводзтвах на украінцаў, *беларусінаў*, россіян, русінаў і паляшукоў, апраўданы з этнаграфічнага пункту гледжаньня, не павінен нарушаць *нацыянальнага адзінства гэтых групаў*".

Гэткім чынам як асобныя народы — нацыі беларускі і ўкраінскі народы расейскім зьездам непрызнаны. Але гэтага мала. Аніводзін з вучасьнікаў зьезду не прызнаў за беларусамі і ўкраінцамі іх права нават на сваю ўласную культуру, на сваю ўласную жывую мову. Гэтак, выходзячы з сваей галоўнай тэзы, што ўкраінцы і беларусы—гэта толькі паасобныя *групы* расейскага народу, зьезд нават і ня ўспомніў аб беларускай і ўкраінскай мове, на якіх гавораць 4 мільёны украінцаў і 2 мільёны беларусаў у Польшчы. А прадстаўнік Наваградчыны п. Молер заявіў: „Мы з прыкрасьцю канстантуем, што ў Наваградзкім ваяводзтве няма аніводнай расейскай школы. *Усё(!) насяленьне жадае гэтай школы.* Не гаворачы аб тым, што заява п. Молера ілжывыя, бо *насяленьне* Наваградчыны плебісцытам у 1924—1925 годзе *сьцвердзіла*, што яно жадае сваей роднай *беларускай* школы — характэрна тут тое, што п. Молер, пры воплесках усяго зьезду выступіў проціў агульна людзкага права мець і беларусам школу ў сваей роднай мове.

Гэта яскрава паказвае, што тыя расейскія людзі, што зьехаліся ў Львове нічаму не навучыліся. Яны ня бачаць, што з надзвычайнай сілай і магутнасьцю растуць беларускі і ўкраінскі нацыянальны рух. Яны ня бачаць і ня хочуць прызнаць таго, што прызнае ўся Эўропа—істнаваньня паасобных народаў беларускага і ўкраінскага. Яны нават ня чулі голасу сваіх землякоў — расейскіх эмігрантаў, якія ў нас у Польшчы праз свой орган „За Свабоду" не раз прызнавалі за намі нашыя правы. Праўда да гэтага „За Свабоду" дайшла праз пэўную эвалюцыю, але дайшла ўжо даволі даўно. Характэрна і тое, што гэткія ўльтра-шовіністычныя рэзалюцыі львоўскі зьезд выносіць у момант, калі ў Польшчы ідзе змаганьне з боку нацыянальных меншасьцяў за свае нацыянальныя правы. Львоўскі зьезд *трэбуе* ад польскага ураду права на сваю школу, аднычасова адбіраючы гэтае права ад народаў беларускага і ўкраінскага. І гэта ў той час, як расейцаў у Польшчы невялічкая група — выключна чыноўная і інтэлігэнцкая, якая тоне ў гушчы беларускага і ўкраінскага народаў. Праўда па нашым даным галоўнымі вучасьнікамі зьезду зьяўляюцца ў значнай меры розныя быўшыя чыноўнікі, якія былі выхаваны ў адпаведным духе „абрусіцельства Западнага Краю". Відаць гэты дух апанаваў зусім зьездам. Аднак жа „За Свабоду" зьмясьціўшы справаздачу аб зьездзе, *сваіх* адносінаў да яго не падала, што нас трохі дзівіць, па першае з тае прычыны, што пагляд „За Свабоды", як мы зазначылі вышэй, у адносінах да беларусаў і украінцаў быў інакшы, а па другое, што на зьездзе зусім ня было момантаў антыбальшавіцкіх. Да гэтага часу як расейская эміграцыя, так і караное насяленьне земляў б. Расейскай Імпэрыі адзначаліся сваім антыбальшавізмам. Гэтага антыбальшавізма на зьездзе зусім ня было. У рэзалюцыях няма ані слова ад адносінах зьезду да бальшавікоў, ды і прамоўцы абыйшлі неяк дзіўна маўчком бальшавіцкую Расею і ўсё тое, што дзеецца ў бальшавікоў. Як нібыта пытаньне йшло аб Расеі там за кардонам. І толькі адзін прадстаўнік Наваградчыны п. Молер заявіў рэвэляцыйна: „мы рэзка адгараджываемся ад бальшавікоў і комуністаў, як элемэнту руйнуючага. *Нам з імі не па дарозе(!)*". І ані слова аб Расеі, якую бальшавікі ператварылі ў бязьлікі СССР., ані слова аб чырвоным тэрроры, аб разгроме расейскай культуры і літэратуры, аб выміраньні вучоных і інтэлігэнцыі, аб разгроме царквы і г д., адным словам аб усім тым, аб чым не павінны былі б маўчаць праўдзівыя патрыёты. А здавалася-бы львоўскаму зьезду трэба было бы асабліва і ясна акрэсьляна выявіць свае адносіны да бальшавікоў. Бо арганізатару яго паслу Серэбранікаву рабіліся зусім адкрытыя закіды ў зьменавехаўстве і ў супрацоўніцтве з бальшавікамі. Гэтых закідаў Серэбранікаў публічна не зьбіў, а заместа гэтага арганізацыйны камітэт вынес рэзалюцыю ў справе Серэбранікава такога зьместу: „У сувязі з выступленьнямі проціў Н. С. Серэбранікава, якія тлумачацца тым, што належачы яму кніжны склад „Россіка" зьяўляецца нібы та прадстаўніком савецкаго дзяржаўнага выдавецтва, арганізацыйны камітэт Рас. Нар. Аб. у Польшчы, з удзелам паўнамоцных на паседжаньні сваём ад 1 лютага г.г., азнаёміўшыся з адпаведнымі дакумэнтамі і заслухаўшы тлумачэньні Н. С. Серэбранікава, знайшоў гэтыя тлумачэньні зусім задавальняючымі і абвінавачываньні Н. С Серэбранікава безпадстаўнымі і дзеля гэтага пастанавіў гэтае пытаньне лічыць вычарпаным. Разам з гэтым арганізацыйны камітэт пастанавіў выказаць Н.С. Серэбранікаву сваё поўнае даверые і выставіць яго кандыдатуру ў старшыні вярхоўнага савету Р.Н.О."

Па першае гэтая рэзалюцыя надта глухая і неясная, на другое запярэчаньня ў тым, што Серэбранікаў ня быў прадстаўн ком госіздат у, і то за добрыя працэнты,—няма, а самае дзіўнае гэта тое, што рэзалюцыю аб Серэбранікаве вынасіў арганізацыйны камітэт, старшынёю яго быў... сам жа Серэбранікаў.

Якія-ж вывады можна зрабіць аб гэтым зьездзе? Прадусім гэта скандальны зьезд, які перад тварам усей Эўропы, у момант калі барацьба з комуністамі займае ўмыслы вялікіх эўрапэйскіх народаў і людзей —у першы раз пасьля 1918 году забыўся аб сваей Бацькаўшчыне і не ўспамянуў ані словам аб неабходнасьці барацьбы з бальшавізмам наагул і з бальшавікамі у Расеі асабліва. 2) Зьезд выявіў нездаровыя шовіністычныя тэндэнцыі абрусіцельнага характару. 3) Зьезд гэты напэўна не дасьць ніякіх рэальных карысьцяў, бо шовіністычныя тэндэнцыі ня могуць спаткаць спачуцьця з боку грамадзянства польскага і нават справядлівыя і рэальныя жаданьні расейцаў могуць спаткаць няпрыхільнасьць. 4) Зьезд выкліча слушнае раздражненьне з боку грамадзянства ўкраінскага і беларускага і адпаведную контракцыю. 5. Дасьць права расейскім комуністам цьвердзіць, што расейскае грамадзянства ў Польшчы зьмірылася з фактам істнаваньня інтэрнацыянальнага СССР. і пакінула барацьбу з насільнікамі Расеі

Пры гэтых прыкрых вывадах успамінаецца другі зьезд—Зарубежнай Расеі, на якім хаця гэтак сама пытаньне аб беларусах і ўкраіьцах ня было слушна вырашана, але затое было многа дзеючай энэргіі і імкненьня да барацьбы за вызваленьне ад бальшавікоў Расеі.

Зьезд у Львове—гэта поўнае банкроцтва разьбіткаў расейскага царскага чыноўніцтва, якое неспадзеўкі публічна зацягнула тую песьню, якую яно сьпевала ў „Западным Краю" ў даваенныя часы.

## Нягодная зьвяга.

Што г. з. Сельсаюз Ярэміча і Рагулі зьяўляецца партыяй без сябраў і ніякай рэальнай сілы і значэньня ў народзе не мае, мы ўжо раз даказалі фактамі. Даволі толькі прыпомніць, што адзіны павет, у якім лідэр саюзу — Рагуля меў свае ўплывы, *абсалютна* апанаваны праз гурткі Грамады, а ў роднай Рагуле Любчанскай гміне гэтых гурткоў больш, як где. Самаго ж Рагулю грамадаўцы выжылі з Наваградзкай Беларускай Гімназіі, якой ён „апекаваўся" і яго быўшы верны памоцнік крэўны .Чатырка здрадзіў яму, стаўшы на чале грамадаўскага руху ў Наваградзкім павеце, чым аканчальна зьліквідаваў усе ўплывы Сельсаюзу. Будучы разьбіты Грамадою сельсаюзьнікі сталі з ёю змагацца, але трохі спазьніліся, бо ня было ўжо каму змагацца—ўсе іх людзі апынуліся ў Грамадзе, апрача трох правадыроў...

У гэты час адбылася консолідацыя сілаў у чыста-нацыянальным дэмакратычным беларускім лагеру. На злосьць усім ворагам і неўспадзеўкі для іх, намі быў скліканы Зьезд Заходняй Беларусі, які прызнаў правідловай нашую палітычную лінію і выдзяліў здаровае, моцнае і аднаітае беларускае нацыянальнае прадстаўніцтва. Праўда магутны нацыянальны настрой, які панаваў на Зьездзе, рашучае трэбаваньне сваіх правоў, ня ўсім падабалася, а не высьвятленыя яшчэ тагды адносіны ўраду да беларусаў, не далі магчымасьці выкарыстаць цалком Зьезду. Аднак-жа Беларуская Нац Рада не зразілася гэтай неспадзеванай няўдачай і энэргічна сваімі ўласнымі сіламі пачала змагацца з растучымі ўплывамі Грамады Змаганьне гэтае яшчэ ў маманты самыя для нас цяжкія дала надзвычай добрыя рэзультаты. У раёнах, гдзе былі нашы сэкрэтарыяты ці нават мужы даверыя, гурткі Грамады не разьвіваліся, альбо арганізаваліся слаба. А ў хуткім часе мы здужалі ад абароны перайсьці ў наступленьне. У *кожным* нумару мы друкуем аб фактах новых і новых развалаў гурткоў нашымі сябрамі. Літэратура, якую кідае на вёску Рада аздараўляючы дзеець на абаламучаную сялянскую масу.

Усё гэта надзвычай падняла аўтарытэт Нацыянальнае Рады ў вачох нашага народу. Уплывы Рады пачалі расьці з кожным днём, Аднычасова сталі ўплывы Рады расьці і сярод грамадзянства польскага. А трэба ўспомніць, што сельсаюзьнікі няўдала прабавалі знайсьці ласку ў урадовых колах. Лазілі многа і ўпарта па чорных сходах польскіх інстытуцыяў і паасобных урадоўцаў, палітычных дзеячоў і г д. і нічога не вылазілі... Бо хто-ж мог даць ім палітычную манаполію ужо пасьля іх банкруцтва? Як можна была паважна гаварыць з пустым мейсцам. Пастолькі, пасколькі ў сельсаюзьнікаў былі два паслы, *з імі гаварылі для заграніцы.* А практычна нічога не рабілі, бо было бы трохі дзіўна аддаць манаполію ў рукі паўграматнага зажырэўшага манцёра. І вось з кожным новым пасьпехам Нацыянальнай Рады, з кожным новым разьбітым гуртком, з кожным новым сэкрэтарыятам Рады, з кожным новым гуртком „Прасьветы" *зайздрасьць* жывотная, паршывая зайздрасьць у сельсаюзьнікаў да нас расла ..

Не радавалася іх беларускае сэрца, што інтэрнацыянальныя гурткі Грамады, якія гэтак разлупілі Сельсаюз, рассыпаюцца пад ўдарамі Рады. Не радавала іх, што паўстаюць новыя беларускія культурныя пляцоўкі „Прасьветы". Іх браў жах, што яны страцяць апошнія свае *партыйныя* ўплывы. Ім не хадзіла аб дабро для народу, хадзіла аб партыю, аб будучыя *мандаты, каб накупляць сабе новыя дамы, новую зямлю*, як гэта зрабілі Ярэміч і Рагуля. Бо за той час, як Радаю разьбіта ўжо некалькі дзесяткаў гурткоў Грамады — *Сельсаюз не разьбіў аніводнага*, страціўшы ўсе свае. І вось не адзін ужо раз сельсаюзьнікі на шпальтах свайго органу гаўкалі з-за вугла на нас. Але мы незварачвалі ўвагі на зьвягу, зазначыўшы, што лічым патрэбным усю сваю энэргію і сілы скіраваць проціў Грамады. Аднак жа сельсаюзьнікі ў N 12 сваей „Сял. Нівы" перайшлі ўсе граніцы прызваітасьці, што змушае нас нарэшце зарэагаваць. Параўнаньне нашай нацыянальнай працы з здрадніцка-правакатарскай працай пасла Ваяводзкага, з якім паслы Ярэміч і Рагуля самі яшчэ гэтак нядаўна разам у Сойме супольна працавалі, калі *ён ужо быў* правакатарам,—мы лічым нападам шалёнага сабакі. Мы прымаем вызаў і будзем вясьці барацьбу з керэнаўска—бязсмысьлянымі сельсаюзьнікамі, але віна за тое, што ўжо зазначыўшыйся агульна антыбальшавіцкі фронт хадэкі — Рада—Сельсаюз—Сельсаюзам разьбіваецца, падае выключна на Сельсаюз. Праўда гэты неспадзяваны напад на нас Сельсаюзу неяк дзіўна лучыцца з крыклівае — істэрычнаю абаронаю скампраміттаваных грамадаўскіх паслоў Ярэмічам... Мы перад тварам усяго беларускага грамадзянства заяўляем, што Сельсаюз напаў на нас за нашае жаданьне дагаварыцца з урадам Маршалка Пілсудскага і польскім грамадзянствам. *Толькі пасьля* таго, як сельсаюзьнікі за сваю непрызваітасьць, глупоту і нахальства падчас перагавораў *аб концэсіях для сябе* з гэтымі жа польскімі чыннікамі, атрымалі заместа канцэсіяў каленам...

Дык пакрыўджаныя сельсаюзьнікі—гэтая адкінутая каханка, кідаюцца са злосьцяй на ўсіх: і на Грамаду і на Урад і на польскае грамадзянства і на нас..

Але раздражненьне і зайздрасьць сельсаюзьнікаў перайшла ўсе граніцы, калі нова-зарганізаванае Т-ва „Беларуская Хатка" атрымала концэсію на лёто. Тое, што грошы з гэтага лёто вызначаюцца на беларускія культурныя патрэбы, аб чым была пададзена у прэсе, звар'яваўшыя сельсаюзьнікі чуць ня хочуць Яны мелі б права рабіць закіды „Бел. Хатцы" калі б яна ня выканала тае праграмы, якую намеціла, а ласьне: закладаньне бібліятэкаў, арганізаваньне бел. тэатру, якога ані Грамада, ані гэты-ж Саюз не парупіліся зарганізаваць, падтрыманьне распадаючыхся беларускіх гімназіяў, арганізаваньне незалежнай саліднай прэсы, беларускай публічнай бібліотэкі, беларускага літэратурнага месячніка і г. д. Але ад самага пачатку выступіўшы проці „Хаткі" Сельсаюз выявіў, што *яму зусім ня ходзіць* аб гэтых беларускіх культурных балячках, а ходзіць аб зайздрасьць.

На ўсе дзікія на нас напады мы адкажам не самі, а за нас адкажуць нашыя чыны. Адкажуць беларускія дзеткі, якім будзе дадзена магчымасьць вучыцца, адкажуць селяне, якім пойдзе друкаванае беларускае слова і беларуская кніжка адкажуць некалькі дзесяткаў безработных віленскіх беларусаў, якім „Хатка" дае кавалак хлеба. Адкажа нарэшце здаровае, зарганізаванае для барацьбы за свае правы грамадзянства. І тагды з пагардай плюне на дэмагогаў — званароў, якія не стварыўшы нічога рэальнага перашкаджалі рабіць іншым.

**Чытайце і пашырайце „Беларускае Слова".**

